# Шляхі Калектывізацыі.




№ 9
1932

# Конкурс па пашырэньні часопісі „Шляхі Калектывізацыі" працягнуты да 1-га верасьня 1932 году

## У кожны калгас, саўгас, МТС часопісь „Шляхі калектывізацыі"

### На барацьбу за першынство ў конкурсе

З 15 сакавіка па 15 мая 1932 г. рэдакцыяй часопісі „Шляхі калектывізацыі" аб'яўлен конкурс па пашырэньні часопісі. Зараз мы атрымалі рад паведамленьняў з раёнаў аб тым, што як селькоры, так і некаторыя райкалгассаюзы ўключыліся ў гэты конкурс.

Гэта гаворыць аб тым, што многія нашы таварышы-рабселькоры і таварышы з райкалгассаюзаў па сапраўдному зразумелі значэньне часопісі „Шляхі калектывізацыі" ў справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, у справе падрыхтоўкі калгасных кадраў. Гэтыя таварышы правы. У часопісі „Шляхі калектывізацыі" можна шмат чаго знайсьці карыснага па калгасным будаўніцтве. У кожным нумары часопісі калгасьнік можа знайсьці каштоўны матар'ял аб падняцьці ўраджайнасьці, аб разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі, аб падрыхтоўцы калгасных кадраў і г. д. Часопісь зьяўляецца найлепшай кніжкай калгасьніка, кніжкай, якая вучыць як трэба змагацца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў у іх арцельнай форме—на даным этапе калгаснага будаўніцтва.

Тыя таварышы, якія ўключыліся ў конкурс па пашырэньні часопісі, робяць надзвычайна вялікую справу. Яны дапамагаюць партыі ўключаць калгасьнікаў у яшчэ больш упартую барацьбу за сацыялістычную будову сельскай гаспадаркі, за пабудову сацыялізму.

Сёньня мы адзначаем ініцыятыву некаторых нашых карэспандэнтаў, што ўключыліся ў конкурс.

Карэспандэнт з Выдрэйскага сельсавету, т. Шакінко Іван піша: „**Надаючы вялікае значэньне распаўсюджаньню друку сярод калгаснага насельніцтва, я аб'яўляю сябе ўдарнікам па распаўсюджаньні часопісі „Шляхі калектывізацыі". Ужо завербаваў два гадавых падпісчыкі на часопісь, бяру на сябе абавязак у бліжэйшы час завербаваць 10 гадавых падпісчыкаў і пяць паўгадавых**".

Аршанскі райкалгассаюз разам з раённым газэтным аддзяленьнем друку паставілі справу так, што на сёнешні дзень ужо выпісана 234 экз. часопісі „Шляхі калектывізацыі" сярод калгасьнікаў. Адначасова выкліканы на спаборніцтва па распаўсюджаньні часопісі Барысаўскі, Крупскі і Смалявіцкі райкалгассаюзы.

Рабселькоры **Марына-горскага** сельскагаспадарчага тэхнікуму (Пухавіцкі р.) уключыліся ў конкурс па пашырэньні часопісі і на май месяц завербавалі сярод студэнтаў свайго тэхнікуму 55 падпісчыкаў на часопісь. Рабселькоры Марына-горскага тэхнікуму выклікалі пасьледваць іх прыкладу ўсе сельскагаспадарчыя тэхнікумы БССР і ў прыватнасьці Стара-Барысаўскі, Нова-Беліцкі, Смалянскі, Курасоўскі.

Ёсьць яшчэ рад паведамленьняў, якія гавораць за тое, што рад рабселькораў, райкалгассаюзаў уключыліся ў конкурс па пашырэньні часопісі, актыўна дапамагаючы рэдакцыі па баявому правесьці конкурс.

Улічваючы тое, што работа па конкурсе пачала толькі разгортвацца, рэдакцыя рашыла працягнуць конкурс да 1-га верасьня 1932 г.

Селькоры і райкалгассаюзы! Множце прыклады Аршанскага райкалгассаюзу, селькораў марына-горскага тэхнікуму, селькора Шакінко. Штодзенна і актыўна змагайцеся за першынство ў конкурсе.

Трэба дабіцца таго, каб у кожным калгасе, саўгасе, МТС была часопісь „Шляхі калектывізацыі", каб кожны калгасьнік, рабочы саўгасу, МТС, бядняк і серадняк-аднаасобнік чыталі часопісь „Шляхі калектывізацыі".

**М. Варанецкі.**

# Усе калгасьнікі, рабочыя саўгасаў, МТС, беднякі і сераднякі-аднаасобнікі павінны чытаць часопісь „Шляхі калектывізацыі"

## Полацкаму, Віцебскаму, Менскаму, Капыльскаму, Узьдзенскаму, Слуцкаму райкалгассаюзам і аддзяленьням саюздруку

### Адказвайце на выклік Барысава!

Адказваючы на выклік Аршанскага райкалгассаюзу па пашырэньні часопісі „Шляхі калектывізацыі", надаючы вялікае значэньне часопісі ў рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, Барысаўскі райкалгассаюз і райбюро саюздруку ўключаюцца ў конкурс (аб'яўлены рэдакцыяй часопісі „Шляхі калектывізацыі") па пашырэньні часопісі, арганізаваўшы падпіску для кожнага калгасу Барысаўшчыны. Ужо маем 155 паўгадавых падпісчыкаў з чэрвеня месяца.

Выклікаем пасьледваць нашаму прыкладу наступныя райкалгассаюзы і райбюро саюздруку: Менску, Віцебску, Полацку, Капыля, Слуцку, Узды. Аб прынятых захадах просім паведаміць праз часопісь „Шляхі калектывізацыі" і даслаць копію паведамленьня нам.

Старшыня Барысаўскага РКС—**Касьцюк.**

Загадчык Барысаўскага райбюро саюздруку—**Адамейка.**

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

9
1932
МАЙ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ





# Сьвята барацьбы і перамог

**Адкажам на пагрозу вайны і інтэрвэнцыі ўзмацненьнем бальшавіцкіх тэмпаў будаўніцтва сацыялізму. Пэратворым кожны завод, саўгас, калгас у несакрушальную крэпасьць абароны краіны.**

Першае мая—дзень міжнароднай пралетарскай салідарнасьці, дзень агляду і мабілізацыі рэвалюцыйных сіл усяго сьвету.

У гэтым годзе першае мая праводзіцца ва ўмовах найглыбейшага эканамічнага крызісу капіталістычных краін і найглыбейшых клясавых супярэчнасьцяй паміж працай і капіталам; ва ўмовах вялікага росту камуністычнага руху ў Эўропе і Амэрыцы і найглыбейшых сымпатый пралетарыяту ўсіх краін да сваей сацыялістычнай бацькаўшчыны—СССР. У нас, у Савецкім саюзе, гэта міжнароднае сьвята праводзіцца ва ўмовах нячуванага ў гісторыі чалавецтва ўздыму ўсёй народнай гаспадаркі, ва ўмовах рэвалюцыйнага энтузіязму рабочых, калгасьнікаў і ўсіх працоўных краіны па ажыцьцяўленьні задач ленінскай партыі будаўніцтва сацыялізму.

Капіталістычная гаспадарка знаходзіцца зараз у становішчы найглыбейшага крызісу. Заводы і фабрыкі працягваюць згортвацца, беспрацоўе з кожным днём расьце. Армія беспрацоўных у капіталістычных краінах налічвае зараз каля 50 мільёнаў. Сусьветны эканамічны крызіс выклікае жахі і паніку ў буржуазіі, бездапаможнасьць у радох кіруючай клясы капіталістычнага сьвету.

Буржуазія пры дапамозе сацыял-фашыстаў шукае выхаду з катастрафічнага становішча. Гэты „выхад" буржуазія бачыць ва ўзмоцненым наступе на жыцьцёвы ўзровень працоўных мас гораду і вёскі і шалёнай падрыхтоўцы да вайны. Павялічваецца армія беспрацоўных, скарачаюцца фонды сацыяльнага страхаваньня. Дзесяткі сямей пралетарыяту прызначаны на голад і сьмерць. Ня лепшае становішча і тых рабочых, якія пакуль што яшчэ працуюць. Капіталісты павялічваюць рабочы дзень, зьніжаюць заработную плату. Дзесяткі мільёнаў сямей працоўных прызначаны на жабрацкае, нечалавечае існаваньне.

З кожным днём пашыраецца нездавальненьне рабочых і працоўнага сялянства. Усё больш разгортваюцца клясавыя бойкі. Ніякія хлусьлівыя ўгаварваньні сацыял-прадацеляў, ні турмы, ні расстрэлы рабочых,—нічога ня можа супыніць росту рэвалюцыйнага руху сярод працоўных усяго сьвету.

Ня гледзячы ні на тэроры, ні пагрозы буржуазіі, ні на кулямёты і бізуны паліцыі, ні на зьверствы фашыстаў,—пралетарыят і ўсе працоўныя гарадоў і вёсак капіталістычных краін, пад сьцягамі ленінізма, пад кіраўніцтвам камуністычных партый, у дзень першага мая дэманструюць:

Супроць наступленьня капіталістаў на жыцьцёвы ўзровень працоўных мас. Супроць дыктатуры буржуазіі і белага тэрору. Супроць фашызму і сацыял-фашызму. За рэвалюцыйны выхад з крызісу, за дыктатуру пралетарыяту.

Ў дзень Першага мая пралетарыят і ўсе працоўныя капіталістычных краін дэманстрыруюць:

Супроць падрыхтоўкі новых імпэрыялістычных войн, супроць падрыхтоўкі сусьветнага імпэрыялізму да нападу на СССР—сацыялістычнай бацькаўшчыны працоўных усяго сьвету.

Працоўныя Савецкага саюзу пад кіраўніцтвам ленінскай партыі пасьпяхова будуюць сацыялізм. Краіна саветаў ператвараецца ў краіну магутнай індустрыі, шпарка даганяючую самыя перадавыя капіталістычныя краіны. СССР ператварылася ўжо ў краіну самага буйнага земляробства ў сьвеце. Бесьперапынна паляпшаецца матар'яльна-бытавое становішча працоўных мас гораду і вёскі.

Савецкі саюз пасьпяхова закончыў трэці год пяцігодкі, у якім завершана пабудова фундаманту сацыялістычнай эканомікі.

Аграмадныя перамогі на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва за час першай пяцігодкі стварылі ўмовы для пастаноўкі вырашэньня яшчэ больш грандыёзных задач у другой пяцігодцы. **„Асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавыя розьніцы і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва“** (з пастановы XVII Усесаюзнай партканфэрэнцыі).

Зараз мы выконваем праграму сацыялістычнага будаўніцтва апошняга году першай пяцігодкі. Папярэднія вынікі першага кварталу гэтага году са ўсёй яскравасьцю паказваюць, што ў параўнаньні з адпаведным кварталам мінулага году выпуск прадукцыі нашай прамысловасьці ўзрос на 19 проц., а выпуск прадукцыі цяжкай індустрыі—на 35.5 пр. Аднак, на гэтых посьпехах мы ні ў якім разе не павінны застанавіцца, трэба з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю змагацца за пасьпяховае завяршэньне першай пяцігодкі за чатыры гады.

У гэтым годзе мы яшчэ больш павінны змагацца за поўнае выкананьне плянаў па нашай прамысловасьці, яшчэ больш настойліва павінны біцца за мэталь і апал, палепшаньне транспорту, хутчэйшае пашырэньне лёгкай індустрыі, выкананьне якасных паказчыкаў прамфінпляну.

**У сельскай гаспадарцы мы павінны з усёй рашучасьцю змагацца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў у іх арцельнай форме разьвіцьця на даным этапе, за канчатковае вырашэньне збожжавай проблемы, за хутчэйшае вырашэньне праблемы жывёлагадоўлі, за павышэньне ўраджайнасьці.** Мы зараз знаходзімся ў палосе адказьнейшай, выключнай гаспадарча-палітычнай важнасьці кампаніі—веснавой пасеўкампаніі. Пасьпяхова правесьці веснавую сяўбу—гэта значыць забясьпечыць выкананьне пляну заключнага году першай пяцігодкі, забясьпечыць посьпех у арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў; гэта значыць яшчэ больш узмацніць абароназдольнасьць нашай краіны.

Таму, выкананьню плянаў трэцяй бальшавіцкай вясны партыйныя, савецкія і камсамольскія арганізацыі і ўся пралетарская грамадзкасьць павінны зьвярнуць выключную ўвагу. Калгасы БССР павінны поўнасьцю выкарыстаць вопыт ударнікаў Крыма, якія скончылі веснавую сяўбу на 20 дзён раней вызначанага тэрміну. Ударнікі палёў Крыма дабіліся бальшавіцкіх тэмпаў сканчэньня сяўбы, дзякуючы правільнай арганізацыі працы, ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі, дзякуючы шырока разгорнутаму сацспаборніцтву і ўдарніцтву паміж палявымі брыгадамі. **Поўнае абсемяненьне намечанай па пляну плошчы, максымальнае скарачэньне тэрміну сяўбы, высокая якасьць сяўбы—цэнтральная задача сёнешняга дню ў вёсцы. Трэба памятаць, што скарочаны тэрмін сяўбы—галоўнейшая ўмова пасьпяховай барацьбы за высокі ўраджай.**

Ключом да вырашэньня ўсіх гэтых задач зьяўляецца шэсьць умоў правадыра нашай партыі тав. Сталіна. Толькі пабальшавіцку ажыцьцяўляючы паказаньні тав. Сталіна, мы зможам пасьпяхова выканаць тыя грандыёзныя задачы, якія перад намі стаяць у заключным годзе першай пяцігодкі.

Капіталістычныя краіны—у цісках найглыбейшага эканамічнага крызісу. Краіна Саветаў—на крутым уздыме будаўніцтва сацыялізму. **„У капіталістычных дзяржавах—найлюцейшае беспрацоўе мільёнаў і крайняе зьбяднеьне шматмільённых мас вёскі. У Савецкім саюзе поўная ліквідацыя беспрацоўя і зьнішчэньне жабрацтва, сямігадзінны рабочы дзень на фабрыках і заводах, няўхільны ўздым дабрабыту працоўных мас гораду і вёскі. Усё гэта яшчэ больш робіць СССР цэнтрам прыцягненьня рабочых усіх краін і прыгнечаных усяго сьвету. Рэвалюцыянізуючае значэньне Савецкага саюзу расьце. СССР мацнее, як база міжнароднага сацыялізму“** (з пастановы XVII Усесаюзнай партканфэрэнцыі).

Усё гэтае прывяло да нябывалага абвастрэньня супярэчнасьцяй у лягеры імпэрыялістаў, у падрыхтоўцы новай вайны да ўзмацненьня інтэрвэнцыі супроць СССР. Капіталістычныя краіны шалёна рыхтуюцца да вайны і ў першую чаргу да нападу на Савецкі Саюз. Аб гэтым сьведчыць рост узбраеньня ў капіталістычных краінах, апошнія падзеі на Далёкім Усходзе, правакацыі супроць СССР, адкрыты сабатаж разбраеньня на так званай канфэрэнцыі па разбраеньню.

---

## Няхай жыве Чырвоная армія—аплот мірнай палітыкі савецкай улады, пільны вартавы савецкіх межаў, верны страж Кастрычніка!

Таму, пераможна будуючы сацыялізм, мы ні адну хвіліну не павінны забываць аб небясьпецы вайны. З яшчэ большай энэргіяй мы павінны разгортваць нашу народную гаспадарку, з яшчэ большай энэргіяй павінны ўзмацняць абароназдольнасьць СССР.

**Рабочыя, калгасьнікі і ўсе працоўныя—шчыльней рады вакол партыі Леніна! Наперад да новых перамог будаўніцтва сацыялізму!**

**Няхай жыве кіраўнік і арганізатар пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва—УсеКП(б) і яе правадыр тав. Сталін!**

**Т. КЛЯШТОРНЫ**

# МАЙ НАД СУСЬВЕТАМ

Ад дзяржаў
да калёній—
адзіны настрой:
на дзьве сілы варожых
плянэта разьбіта...
Колькі год
пралетарскай крывёй
было
майскае сонца
заліта!
Гэты дзень
сваю вострасьць
ня сёньня набыў,
і свой курс
не на прошласьць трымае...
Міліёны гартуюць
запал барацьбы
Пад праменьнем
сусьветнага Маю,
Каб
запал гартаваны
далей нясучы
перайначыць
законы сусьвету...
Імя Ленін
сягоньня гучыць
на ўсіх мовах вялікай плянэты...
Ад дзяржаў
да калёній—
адзіны настрой:
Ходзяць
гоманы громаў па сьвеце...
Хоць вартуюць „архангелы"
мірны спакой,
але
міру
няма на плянэце.

І няма такіх молаў
і сілы няма,
Каб
гісторыі страму
стрымалі...
Бурных штормаў
ня спыніць
расстрэл і турма,
Што ідуць
з пралетарскіх кварталаў.
Нездарма
так бурліць
збунтаваная кроў,
нездарма
так напружаны
нэрвы...
Не схавае пад шыльдай
драпежных зубоў
„міратворчы анёлак"
Жэнэвы...
Хай
хоць тоны
гарматных сьмярцей
праляцяць.
Хай зямля скалыхнецца
сягоньня,
Але
пойдзе рашуча
заўжды пралетар
Супроць громаў
драпежніцкай бойні—
Стане Жан,
стане Роза,
Марат
з новай сілай,
з натхнёнасьцю новай—
не дапусьціць,
каб
жэрлам гармат
пан-драпежнік
даў важкае слова,
каб
на полі расстрэлу
штоноч
і штодзень,
Пад грымотныя тыя раскаты,
нагружалі
ў баёх скарыстаных людзей,
выгружалі
жывых
і гарматы.
Бо сягоньня
пажарам
гарыць небакрай,
На дзьве сілы варожых
разьбіта плянэта...
Сёньня
сілы гартуе
сусьветны Май
для Кастрычніка
цэлага сьвету.
Ад дзяржаў
да калёній—
адзіны настрой:
Ходзяць
гоманы громаў па сьвеце...
Хоць вартуюць „архангелы"
мірны спакой,
але
міру
няма на плянэце.

Менск, 29-IV—32 г.

**Братом па клясе—вязьням капітала, ахвярам фашыстоўскага тэрору—наш пралетарскі прывет.**

# За скарачэньне тэрмінаў сяўбы, за ўраджай!

**Арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасаў саўгасаў, правільным стварэньнем брыгад, разгортваньнем спаборніцтва і ўдарніцтва—забясьпечым выкананьне пляна веснавой сяўбы і высокую ўраджайнасьць нашых палёў.**

## Раўняцца па перадавых

Сяўба раньніх збожжавых культур па БССР у поўным разгары. Перадавыя калгасы, якія добра падрыхтаваліся да гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі, скончылі пасеў раньніх яшчэ ў красавіку месяцы. Так, калгас **„Дняпроўскі араты“**, Камарынскага раёну, скончыў сяўбу збожжавых культур да 25 красавіка, калгас **„Чырвоны бор“**, Хойніцкага раёну пасеяў 20 *га* яравога жыта, 18 *га* аўса, 6 *га* ячменю і 2 *га* гароху. Усяго па БССР па зьвестках на 1 мая засеяна 34 тысяч *га*.

Да 23 красавіка калгас **„Прагрэс“**, Дубровенскага раёну, засеяў 2 *га* пшаніцы, **„13-цігодзьдзе Кастрычніка“**—засеяў 1 *га* ільну і 0,5 *га* капуснай расады, **„Прамень Кастрычніка“** засеяў 25 *га* канюшыны.

Рад машына-трактарных станцый прыступілі да сяўбы ў палове красавіка. На 22 красавіка Жыткавіцкая МТС засеяла 101 *га* раньніх яравых культур, Церахаўская—30 *га*, Буда-Кашалёўская — 10 *га*, Рэчыцкая—6 *га*, Вузьдзенская—15 *га*, Даманаўская МТС засеяла 15 проц. усёй плошчы, вызначанай па пляне. Кожны дзень прыносіць усё новыя і новыя зьвесткі аб перамогах на пасеўным фронце.

Аднак, мы маем яшчэ рад калгасаў, якія зусім непадрыхтаванымі прыступілі да палявых работ. Напрыклад, калгас „Чырвоная Беларусь“, „Бальшавік“ і калгас імя Сталіна, Мсьціслаўскага раёну, не ачысьцілі яшчэ насеньня, сельскагаспадарчы інвэнтар не адрамантавалі поўнасьцю. У калгасе „Бальшавік“ нехапае для пасеву 102 цэнтнэраў розных культур і ні праўленьне калгасу, ні сельскі савет ня прынялі канкрэтных мер па забясьпечаньні насенным матар'ялам намечанай па пляне плошчы. Міжкалгасная і ўнутрыкалгасная насенная ўзаемадапамога не разгорнута.

Сталыя вытворчыя брыгады, якія павінны адыграць рашаючае значэньне ў пасьпяховым праведзеньні веснавой сяўбы, шмат па якіх калгасах да гэтага часу яшчэ не арганізаваны. Да палявых работ прыступілі без належнай расстаноўкі рабочай сілы. На Мазыршчыне, напрыклад, некаторыя старшыні калгасаў заяўляюць, што „арганізацыя брыгад неабавязкова, сяўбу можна скончыць і па старой расстаноўцы сіл у калгасе“.

Зусім зразумела, што такія разважаньні зьяўляюцца ні чым іншым, як прамой дапамогай кулаку ў яго барацьбе супроць арганізацыйна гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, супроць павышэньня ўраджайнасьці калгасных палёў. Трэба павесьці рашучую барацьбу з апартуністычнай недаацэнкай ролі брыгады—асноўнага зьвяна ў падняцьці калгаснай вытворчасьці. Трэба зараз-жа на хаду пасеўкампаніі арганізаваць сталыя вытворчыя брыгады ў тых калгасах, дзе яны не арганізаваны яшчэ. Толькі ў правільнай арганізацыяй працы, ліквідацыяй абязьлічкі і ўраўнілаўкі магчыма пасьпяхова выканаць пляны сяўбы.

У Крыме ў гэтым годзе скончылі веснавую сяўбу на 20 дзён раней вызначанага тэрміну. Ударнікі Крыма дабіліся гэтых посьпехаў дзякуючы правільнай арганізацыі працы, поўнай ліквідацыі абязьлічкі і ўраўнілаўкі, шырока разгорнутага сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва паміж палявымі брыгадамі. Вопыт ударнікаў Крыму павінен быць поўнасьцю выкарыстан усімі калгасамі БССР.

Збор насеньня і да гэтага часу яшчэ поўнасьцю ня скончан. Разгортваючы ўдарнымі тэмпамі сяўбу, па-бальшавіцку трэба змагацца за поўнае стварэньне насенных і страхавых фондаў у калгасах і аднаасобным сэктары. Ніводзін кавалак яравога кліну не павінен застацца незасеяным. Поўнасьцю мабілізаваць унутраныя насенныя рэсурсы. Шырэй разгарнуць міжкалгасную і ўнутрыкалгасную ўзаемадапамогі па стварэньні насенных фондаў.

Веснавая сяўба патрабуе да сябе выключнай увагі партыйных, камсамольскіх і савецкіх арганізацый. Цэнтральнай задачай зараз у вёсцы зьяўляецца—веснавая пасеўная кампанія. Сюды павінна быць зьвернута ўся ўвага. Сюды павінны быць кінуты лепшыя сілы.

Жывое апарацыйнае кіраўніцтва сяўбой набывае выключнае значэньне. Райкалгассаюзы павінны быць зараз на калгасных палёх, павінны кіраваць сяўбой, дапамагаць калгасам поўнасьцю выканаць пасеўныя пляны.

Веснавая сяўба павінна даць тысячы новых ударнікаў — змагароў за арганізацыйна - гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Узброіцца вопытам Крыму ў барацьбе за скарочаныя тэрміны сяўбы, за высокі ўраджай.

**Шырэй сацспаборніцтва і ўдарніцтва па выкананьні пляну веснавых работ.**



Васеньняя сяўба ў поўным разгары.

# Лепшыя атрымалі прэміі

За ўзорную падрыхтоўку да веснавой сяўбы Калгасцэнтр БССР прэміяваў рад калгасаў і аднаасобных працаўнікоў. Ніжэй мы падаем сьпіс тых калгасаў, якія атрымалі прэміі.

Для прэміяваньня лепшых ударнікаў калгасу **імя ДПУ**, Менскага раёну, адпушчана 300 руб., старшыня калгасу **„Чырвоны трактарыст“**, Ельскага раёну, **т. Руцкі прэміраван 200 руб.**, акрамя гэтага выдадзена на 300 руб. прамтавараў для прэміяваньня лепшых ударнікаў гэтага калгасу. Для прэміяваньня лепшых ударнікаў калгасу **„Чырвоны камунар“**, Жлобінскага раёну, адпушчана 300 руб., акрамя гэтага выдадзен крэдыт у суме 800 руб. на пабудову кароўніка. Старшыня калгасу **„Сейбіт“**, Петрыкаўскага раёну, **т. Беластоцкі атрымаў 200 р.** Старшыня Чырвона-Слабодзкага райкалгассаюзу **тав. Кавальчук атрымаў прэміі 200 руб.** і старшыня калгасу „КІМ“ гэтага-ж раёну **т. Смоліч прэміяван 100 р.** Акрамя гэтага калгасу „КІМ“ выдадзена 300 руб. для пабудовы дзіцячых ясьляй.

Гэтыя калгасы поўнасьцю засыпалі насенныя фонды, адрамантавалі іввэнтар і збрую, створаны сталыя вытворчыя брыгады, за якімі замацаваны вучасткі зямлі. Прэміяваныя калгасы поўнасьцю ліквідавалі абязьлічкі і ўраўнілаўку, правільна расставілі рабочую сілу на палявых работах. Толькі дзякуючы гэтаму памянёныя калгасы арганізавана прыступілі да палявых работ.

Усе калгасы БССР павінны раўняцца па перадавых, змагацца за пасьпяховае сканчэньне веснавой сяўбы ў максымальна скарочаны тэрмін, за поўнае абсемяненьне намечанай па пляне плошчы. Шырока разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва паміж калгасамі і палявымі брыгадамі на лепшае і хутчэйшае сканчэньне веснавой сяўбы.

**Д. С.**

# Да 20 мая скончым сяўбу

(*Койданаўскі раён*)

На імя Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б, ЦВК і VII-га надзвычайнага зьезду Саветаў Койданаўскага раёну, які адбыўся 28 красавіка, калгасьнікі калгасу імя Крупскай, Ляхавіцкага сельсавету, прыслалі рапарт. У рапарце калгасьнікі пішуць:

„Рэарганізацыя Койданаўскага раёну ў нацыянальны польскі—новы вялікі пераможны крок у ажыцьцяўленьні ленінскай нацыянальнай палітыкі.

У фашысцкай Польшчы, дзе пануе дыктатура памешчыкаў і капіталістаў, з дня на дзень паглыбляецца эканамічны крызіс. Кожны дзень закрываюцца фабрыкі, сотні тысяч рабочых палякаў і іншых нацыянальнасьцяй выкідваюцца на вуліцу, узрастаюць падаткі, руйнуючы сялянскія гаспадаркі.

У нас, у краіне Саветаў, рабочая кляса і працоўнае сялянства, пад кіраўніцтвам ленінскай кампартыі, пераможна будуюць сацыялізм, шпарка крочаць да бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва.

Польскае працоўнае насельніцтва з году ў год прымае найшырэйшы ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве.

Наш калгас імя Крупскай аб'ядпае 4 пасёлкі—Падруб'е, Суднікі, імя Леніна і Сталіна. З посьпехам закончыўшы кампанію па выкананьні ўсіх загатоўчых заданьняў, мабілізацыі сродкаў, яшчэ ў пачатку студзеня мы пачалі рыхтавацца да трэцяй бальшавіцкай вясны.

Да тэрміну адрамантавалі інвэнтар, збрую, стварылі насенны фонд. За зіму мы вывезьлі на поле 430 вазоў гною і прывезьлі ў калгас 7 тон штучнага ўгнаеньня. У выніку пасьпяховага сканчэньня падрыхтоўчай кампаніі да сяўбы, калгас заняў першае месца ў Койданаўскім раёне і 13 красавіка распачаў сяўбу. На 23 красавіка наш калгас засеяў 9 *га* аўса, 6,5 *га* пшаніцы, 2,5 *га* сэрадэлі. За ўдарную работу калгас прэміяваны РВК на суму 300 руб.

Гэтых посьпехаў мы дасягнулі ў выніку ажыцьцяўленьня 6 умоў тав. Сталіна.

Аднак, мы не павінны прайсьці міма тых недахопаў, якія ў нас ёсьць. Ня ўсе калгасьнікі яшчэ ліквідавалі сваю няпісьменнасьць.

У адзнаку VII надзвычайнага зьезду саветаў мы абавязваемся **закончыць сяўбу да 20 мая.** Арганізаваць пры калгасе дзіцячыя ясьлі, гурток па ліквідацыі няпісьменнасьці на польскай і беларускай мовах. Усіх калгасьнікаў і калгасьніц завербаваць у грамадзкія арганізацыі. Арганізаваць гурток па аўладаньні вайсковай тэхнікай.

Абавязваемся яшчэ шырэй разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў барацьбе за тэрміновае сканчэньне сяўбы і за выкананьне ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній. Мы запэўняем раённы зьезд саветаў і Цэнтральны Камітэт партыі, што яшчэ больш узмоцнім клясавую пільнасьць у барацьбе за генэральную лінію партыі.

По даручэньні агульнага сходу калгасьнікаў:

Прэзыдыум сходу—**Байтручок, Зумрэцкі і Хаменка.**

т. Лі-Вун-Лі—адзін з лепшых ударнікаў кітайскага нацыянальнага калгасу (Віцебшчына).



# Палявыя брыгадныя газэты — змагары за бальшавіцкую сяўбу

Практыка нізавога друку і рабселькораў паказала, што па радзе раёнаў і сельсаветаў—„нізавы друк і рабселькоры сталі самай моцнай, самай вострай зброяй нашай партыі“ (Сталін) у барацьбе за вырашэньне цэнтральнай задачы—арганізацыйна гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, за падрыхтоўку да 3-й бальшавіцкай сяўбы, як-та:

Складаньне насенных і адлічэньне страхавых фондаў, складаньне фуражных фондаў, рэалізацыя насеннай пазыкі, арганізацыя брыгад з сталым складам калгасьнікаў і прымацаваньне да брыгад пэўных вучасткаў зямлі, ліквідацыя абязьлічкі і кулацкай ураўнілаўкі, разгортваньне сацыялістычных мэтадаў працы, шляхам поўнага ажыцьцяўленьня 6 гістарычных умоў тав. Сталіна.

На міжраённай куставой нарадзе рэдактароў насьценгазэт калгасаў, саўгасаў і МТС Мазырскага куста выявілася шмат ганебных фактаў. Так, па Мазырскім раёне старшыня калгасу „Чырвоны сьцяг“ займаўся „очковтирательством“, ня прымаў ніякіх захадаў да ліквідацыі абязьлічкі ў сьвінарніку, кароўніку; няправільна расстаўляў рабочую сілу, а гаварыў, што „ў нас усё добра“. Рэдкалегія насьценгазэты і рабселькоры калгасу „Чырвоны сьцяг“ выкрылі шкодных элемэнтаў, „очковтирателей“ і праз насьценгазэту арганізавалі грамадзкую думку, у выніку чаго апошніх выключылі з калгасу, а старшыню калгасу зьнялі з працы і перадалі справу ў нарсуд. Насьценгазэта і рабселькоры дамагліся ліквідацыі абязьлічкі, як у МТФ, СТФК, так і ў конным парку, шляхам стварэньня брыгад і прымацаваньня да кожнага работніка брыгады каня, станка, мёртвага інвэнтара і інш.

У Ельскім раёне рабселькоры і нізавыя калгасныя, саўгасныя рэдкалегіі насьценных газэт прыцягнулі аграспэцыялістаў да практычнай работы ў саўгасе „Добрынь“, распрацавалі пастанову 2 агразаатэхнічнага зьезду і прымянілі ў працы саўгасу па павышэньні ураджайнасьці.

Насьценнай газэтай калгасу „Сейбіт“, Петрыкаўскага раёну, праведзена праверка становішча сьвінагадоўчай фэрмы. Выявілася, што сьвіньні стаялі па вушы ў гразі, часта былі галодныя, ад гэтага меліся выпадкі вялікага адыходу сьвіней. Насьценгазэта дала сыгнал, зьмясьціўшы „адкрыты ліст сьвіней“, у якім яны білі трывогу на дрэнны догляд і патрабавалі палепшаньня догляду за імі. Зараз сьвінагадоўчая фэрма знаходзіцца ў здаровым стане і адыход маладняка зьнізіўся да мінімуму.



Камунары камуны „Зьвязда“ адпраўляюць малако з фэрмы на ст. Пухавічы для пралетарскіх цэнтраў (Пухавіцкі раён).

Дэлегаты міжраённай куставой нарады абмяняліся вопытам работы і на аснове разгорнутай бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі з усёй рашучасьцю ўскрылі недахопы нізавога друку ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы.

Міжраённая нарада мабілізавала ўвагу рэдактароў калгасных, саўгасных і МТС насьценгазэт на пасьпяховае правядзеньне веснавой сяўбы. Барацьбітом за пасьпяховае правядзеньне веснавой сяўбы павінны стаць палявая брыгадная насьценгазэта. Нарада па-баявому ўключылася ў правядзеньне месячніка масавай праверкі партыйнага кіраўніцтва ў перабудове працы рабселькораў і нізавога друку.

У цэнтр увагі рэдактароў нізавога друку нарада паставіла ажыцьцяўленьне пастаноў ЦК УсеКП і ЦК КП(б)Б па пытаньні рабселькораўскага руху і падрыхтоўкі газэтных кадраў.

Па пытаньнях лепшага правядзеньня веснавой сяўбы, удзельнікі нарады заключылі паміж сабой сацыялістычныя дагавары.

**Кузьмянок, Зайцаў, Юдзенкоў.**

# Першы выезд у поле выклікаў новы прыліў у калгасы

(*Мазырскі раён*)

Дзякуючы добрай падрыхтоўцы рад калгасаў нашага раёну распачалі веснавую сяўбу яшчэ ў першай палове красавіка. Зараз некаторыя калгасы скончылі ўжо сяўбу раньніх культур.



Першы выхад у поле

У час першага выезду ў поле некаторыя калгасы, якія добра падрыхтаваліся да сяўбы, мелі прыліў з беднякоў і серадняко́ў. Так, у раёне дзейнасьці Дамановіцкай МТС, у калгас **Дудзічы** ўступіла 6 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, у калгас **„Новыя халоднікі“**—4 гаспадаркі і ў астатніх калгасах ёсьць прыліў на 1—2 гаспадаркі.

Уступіўшы ў калгасы, беднякі і серадзякі поўнасьцю ссыпалі насеньне і шчыра ўзяліся за працу.

Калгасьнікі ўзялі на сябе абавязак скончыць веснавую сяўбу на 5 дзён раней тэрміну, аб'явілі сябе ўдарнікамі 3-й бальшавіцкай сяўбы.

**А. П.**

# Практыка арганізацыі брыгад у калгасе імя ДПУ

*(Менскі прыгародны сельсавет)*

Прыступаючы да арганізацыі вытворчых брыгад, калгас імя ДПУ, прарабіў папярэднюю вялікую працу па складаньні рабочага пляну веснавой сяўбы і ўборкі ўраджаю. Гэты плян адначасова служыць і рабочай праграмай. У пляне зроблены разьлікі, колькі неабходна затраціць рабочай і цягавай сілы ў кожнай брыгадзе на працягу ўсяго пэрыяду палявых работ на кожны від работы па кожнай культуры паасобку. Складаючы плян, адначасова прапрацоўваліся і нормы выпрацоўкі па ўсіх відах работ, прыстасоўваючы іх да ўмоў калгасу, улічваючы ступень мэханізацыі і машынізацыі, становішча жывога і мёртвага інвэнтару.

На падставе рабочага пляну калгасам складзен графік працы, з якога відаць напружанасьць працы па паасобных пэрыядах і па дэкадах, калі і колькі працадзён не хапае, ці лішнія. Такая пастаноўка работы дае мажлівасьць выявіць лішнюю рабочую сілу ў калгасе для перадачы яе арганізаваным парадкам прамысловасьці.

Калгас імя ДПУ мае пладова-гародны напрамак. Разьлікі паказалі, што на пладова гародныя культуры будзе затрачана 60 проц. рабочай сілы на працягу ўсяго пэрыяду палявых работ уключаючы сюды ўборку і захаваньне ўраджаю. На збожжавыя культуры і сенажаці, уключаючы і ўборку позьняй бульбы, будзе затрачана 40 проц.

Вядучай галіной гаспадаркі гэтага калгасу зьяўляецца гародніна і пладоўніцтва.

| №№ п/п | Пералік культур | Плошча ў *га* | Увага |
|---|---|---|---|
| 1 | Малады пладовы сад . . . | 67 *га* | Уся плошча саду занята гароднінай і ўваходзіць у лік 73 *га* гародніны |
| 2 | Стары „ „ . . | 1 „ | |
| 3 | Клубнікі. . . . . . . | 5 „ | |
| 4 | Гародніна . . . . . . | 73 „ | У тым ліку 5 *га* калгасьнікаў |
| 5 | Раньняя бульба . . . . | 30 „ | |
| 6 | Позьняя „ . . . . | 35 „ | |
| 7 | Бручка кармавая і сілос . . | 28 „ | |
| 8 | Азімыя . . . . . . . | 103 „ | |
| 9 | Яравыя зернавыя . . . . | 75 „ | |
| 10 | Бабовыя „ . . . . | 15 „ | |
| 11 | Віка і сэрадэля . . . . | 11,5 „ | |
| 12 | Лубін . . . . . . . | 6 „ | |
| 13 | Канюшына . . . . . . | 22 „ | |
| 14 | Натуральная сенажаць . . | 108 „ | |
| | Разам . . . . | 579,5 *га* | |

Як бачым, працаёмкімі культурамі, як гародніна, бульба, кармавая бручка і сілос, занята плошча ў 239 *га* і астатнімі, акрамя натуральных сенажацяў,—232,5 *га*.

Як-жа ў такіх умовах калгас падышоў да арганізацыі вытворчых брыгад?

Калгас парашыў арганізаваць брыгады па прынцыпу вядучай галіны ў гаспадарцы. Створаны, такім чынам, 6 брыгад пладова-гародных, 1 брыгада жывёлагадоўлі і 1 брыгада майстраў (кавалі, плотнікі).

За кожнай пладова-гароднай брыгадай замацоўваюцца пэўныя вучасткі, па мажлівасьці, аднародных гародных культур і ў дадатак збожжавых і сенажаць. Калі-ж нельга замацаваць за кожнай брыгадай аднолькавую плошчу аднолькавых відаў культур, з прычыны тых ці іншых абставін, то даецца плошча другіх гародных і іншых культур, раўнацэнная па колькасьці неабходнай затраты працадзён на выкананьне работы па пасеву, догляду і ўборцы гэтых культур. Зрабіць гэта вельмі лёгка, маючы перад сабою рабочы плян і расьлін неабходнай затраты працадзён на выкананьне работ па кожнай культуры.

Жывёлагадоўчая брыгада абслугоўвае толькі рагатую жывёлу і сьвіней. Людзі, якія даглядаюць коняй, сюды не ўваходзяць, таму што яны ўліваюцца ў тыя брыгады, да якіх прымацаваны абслугоўваемыя імі коні.

Пасьля прапрацоўкі ўсіх матар'ялаў усе брыгадзіры прапушчаны праз каротка-тэрміновыя курсы—інструктаж па азнаямленьні з паасобнымі прыёмамі карыстаньня машынамі і прыладамі, якія будуць ужывацца ў калгасе ў гэтым годзе, пад наглядам ячэйкі ІТС пры Беларускай зональнай пладова-гароднай дасьледчай станцыі.

**П. Сяргейчык.**

## Пралетарскае жыльлё



**У іх:** беспрацоўны бэрлінскі мэталіст з жонкай і 4 дзецьмі перабраўся жыць на вышкі старога дому.



**У нас:** Савецкі мэталіст сьвярдлоўшчык завода „Красный Пролетарий“ з жонкай і 5 дзяцьмі перабраўся ў новаадбудованы дом.

# ПАГЛЯДЗЕЦЕ НА КАРТУ

„Паглядзеце на карту РСФСР. Да поўначы ад Валагды, да Паўднёва-Ўсходу ад Растова-на-Дану і ад Саратава, да Поўдня ад Аранбурга і ад Омска, да Поўначы ад Томска ідуць неабсяжныя прасторы, на якіх зьмясьціліся-б дзесяткі вялізарных культурных дзяржаў, і на ўсіх гэтых прасторах пануе патрыярхальшчына, паўдзікасьць і самая сапраўдная дзікасьць“. ЛЕНІН.

(1921 г.).



# ПАГЛЯДЗЕЦЕ НА КАРТУ




**„Паглядзеце на карту СССР. Пяцігодка перакроіла твар краіны. Да поўначы ад Валагды, да Паўднёва-Ўсходу ад Растова-на-Дану і Саратава, да Поўдня ад Аранбурга І Омска, да Поўначы ад Томска—на ўсіх гэтых прасторах, дзе панавала патрыярхальшчына, паўдзікасьць і самая сапраўдная дзікасьць, растуць гіганцкія саўгасы, калгасы, заводы, шахты, гарады. Каля Растова—сельмаш, каля Сталінграда—трактарны, паблізу гары Атач — Магнітагорск — Кузьнецкбуд, вугаль, мэталі, трактар, нафта, бавоўна. Паглядзеце на карту СССР. Паглядзеце, як выконваюцца заветы Леніна“.**

**СТАЛІН.**

# БССР на парозе суцэльнай пісьменнасьці

Працоўныя Савецкага Саюзу пад непахісным кіраўніцтвам камуністычнай партыі пасьпяхова будуюць сацыялізм. Завершана пабудова фундаманту сацыялістычнай эканомікі.

Найвялікшыя перамогі на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва за час першай пяцігодкі стварылі ўмовы для пастаноўкі вырашэньня яшчэ больш грандыёзных задач другой пяцігодкі. „Асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул. Поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва" (з пастановы XVII канфэрэнцыі УсеКП(б).

Працоўныя ўсіх нацыянальнасьцяй Савецкай Беларусі пад кіраўніцтвам КП(б)Б дабіліся аграмаднейшых посьпехаў на фронце сацыялістычнага будаўніцтва.

БССР у цесным саюзе і пры падтрыманьні ўсяго Савецкага Саюзу пасьпяхова перамагае эканамічную і культурную адсталасьць—спадчыну царызму. З краіны занялалай, цёмнай, някультурнай у мінулым, Беларусь ператвараецца ў краіну індустрыяльна-калгасную, у краіну суцэльнай пісьменнасьці; з краіны спажывецкай—у краіну высока-таварнай жывёлагадоўлі і тэхнічных культур.

Працоўныя Савецкай Беларусі ўсіх нацыянальнасьцяй, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, пераможна будуюць культуру, пралетарскую па зьмесьце і нацыянальную па форме, рашуча і пасьпяхова зьнішчаючы рэшткі эканамічнай і культурнай адсталасьці раней прыгнечаных нацыянальнасьцяй. Яркім доказам новай буйнай перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі, новым магутным паказчыкам эканамічнага і культурнага ўздыму польскіх працоўных мас, якія да Кастрычніцкай рэвалюцыі былі прыгнечанымі, зьяўляецца рэарганізацыя Койданаўскага раёну ў нацыянальна польскі раён.

Пасьпяховае вырашэньне ленінскай нацыянальнай палітыкі забясьпечваецца рашучай барацьбой рабочай клясы і ўсіх працоўных пад кіраўніцтвам партыі супроць вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму, супроць польскага, яўрэйскага і іншых шавінізмаў.

Вялізарныя посьпехі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва Савецкай Беларусі зьяўляюцца яркім доказам правільнасьці ленінскай нацыянальнай палітыкі, якая пасьлядоўна ажыцьцяўляецца ў Савецкім Саюзе. Дасягнутыя посьпехі на ўсіх вучастках гаспадарчага і культурнага будаўніцтва яшчэ раз сьведчаць аб тым, што толькі камуністычная партыя правільна вырашыла нацыянальнае пытаньне.

Досыць аглянуцца назад на 15 год, як мы ўбачым, што па БССР да Кастрычніцкай рэвалюцыі было 70 проц. няпісьменнага працоўнага насельніцтва. З краіны нацыянальна-прыгнечанай, адсталай, няпісьменнай, някультурнай—БССР ператвараецца ў краіну суцэльна-пісьменную.

Вакол разгортваньня будаўніцтва беларускай пралетарскай культуры адбываецца клясавая барацьба. Клясавы вораг перагалоскамі з фронту клясавай барацьбы па радзе вучасткаў сацыялістычнага будаўніцтва пераклікаецца і на культурным фронце, як у форме процідзеяньня разгортваньню нацыянальна-культурнага будаўніцтва, так і асабліва вакол ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Актывізацыя клясава-варожых сіл, у сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы, асабліва вялікадзяржаўнага шавінізму, праяўляецца ў барацьбе супроць будаўніцтва нацыянальнай па форме і пралетарскай па зьмесьце беларускай культуры, у ігнараваньні яе нацыянальнай формы, у трактаваньні беларускай культуры, як культуры „сялянскай", адсталай, у супроцьпастаўленьні нацыянальнай формы беларускай культуры яе пралетарскаму зьместу.

Вядучы рашучую барацьбу з клясава-варожымі тэндэнцыямі на тэарэтычным фронце, мы павінны поўнасьцю забясьпечыць выкананьне дырэктыў партыі аб ператварэньні БССР у краіну суцэльнай пісьменнасьці. Гэту задачу павінны выканаць працоўныя БССР. На гэта ёсьць у нас усе магчымасьці, на якіх пасьля заканчэньня ліквідацыі няпісьменнасьці перайсьці да ліквідацыі малапісьменнасьці.

З увядзеньнем усеагульнага абавязковага навучаньня, мы дамагліся значных посьпехаў у зьнішчэньні прычын, ад якіх раджаецца цемра, няпісьменнасьць, някультурнасьць. На сёнешні дзень рознымі зьвеньнямі першапачатковай школы ахоплена каля 650 тысяч дзяцей—97 проц. школьнага ўзросту, сямігодкай—звыш 120 тысяч дзяцей. Няпісьменных і малапісьменных навучаецца ў розных школах і лікпунктах 412 тысяч чалавек. Досыць толькі прывесьці лічбы, што за апошнія гады ліквідавалі няпісьменнасьць звыш 800 тысяч чалавек.

У нас ёсьць сотні фабрык, заводаў, саўгасаў, калгасаў, дзесяткі сельсаветаў, якія зьяўляюцца ўжо суцэльна-пісьменнымі. Хіба гэта ня ўзор бальшавіцкай работы? Хіба гэта ня доказ таго, як мы выконваем заветы Леніна? Гэтыя лічбы і факты гавораць самі за сябе!

Мы знаходзімся ў краіне нябачанага і нячуванага росквіту культуры і навукі. На аснове вучэньня марксызму-ленінізму, на аснове дыялектычнага мэтаду, як адзінага правільнага сьветапогляду пралетарыята—выводзім з цемры працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцяй.

Па пляне культурнага будаўніцтва БССР у 1932—33 годзе намячаецца шырока разгарнуць сетку навучальных установ па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў для гаспадарчага і культурнага будаўніцтва БССР і ахапіць як непасрэдным, так і завочным навучаньнем усіх работнікаў, якія ня маюць адпаведнай кваліфікацыі, але працуюць у данай галіне вытворчасьці.

Партыяй праведзена вялікая работа на тэарэтычным фронце па выкрыцьці контррэвалюцыйных тэорый, па ачыстцы дарогі для разьвіцьця пралетарскай культуры. Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б, які адбыўся 28 сакавіка гэтага году, заастрыў увагу ўсіх партыйных арганізацый і пралетарскай грамадзкасьці

„на задачах рашучай барацьбы за партыйнасьць навукі, бязьлітаснай барацьбы з правым апартунізмам контррэвалюцыйным трацкізмам, „левымі“ загібамі і гнілым лібэралізмам на навукова-тэарэтычным фронце“.

Усё з кожным днём узрастаючыя запатрабаваньні шырокіх працоўных мас патрабуюць шыроказразгорнутай масавай культурна-асьветнай работы. І зусім недапушчальным зьявішчам зьяўляецца тое, што ў радзе месц некаторыя культурна-асьветныя памяшканьні скарыстоўваюцца не па прызначэньні, што стан капітальнага будаўніцтва культурных устаноў абсалютна нездавальняючы. Пленум ЦК і ЦКК прапанаваў „забясьпечыць выкананьне ў гэтым годзе ўсяго пляну будаўніцтва культурна-асьветных устаноў, а таксама скончыць ужо пачатыя будаўніцтвам масавыя школы“.

Для выкананьня пастаўленых партыяй задач неабходна мабілізаваць усю грамадзкую думку, а асабліва партыйна-камсамольскі і прафсаюзны актыў, і каб выканаць задачы сацыялістычнага будаўніцтва, высунутыя другой пяцігодкай. Неабходна ўзьняць на вышэйшую ступень масава-культурную і палітыка-асьветную работу, карэнным чынам перабудаваўшы яе, асноўны цяжар яе перанесьці „ў цэх, прадпрыемства, МТС, саўгас, калгас, чыгуначнае дэпо і большага падпарадкаваньня непасрэдным задачам сацыялістычнага будаўніцтва“ (з пастановы пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Прафсаюзы павінны накіраваць сваю работу на выкананьне канкрэтных паказальнікаў прамфінпляну, за сацыялістычныя адносіны да працы. Прафсаюзы павінны прыняць самы актыўны і непасрэдны ўдзел у вытворча-клясавым выхаваньні, асабліва новых рабочых, ва ўзмацненьні абароназдольнасьці краіны, узмацненьні інтэрнацыянальнага выхаваньня, выкананьні шасьці гістарычных умоў тав. Сталіна—вось што павінна легчы ў аснову масавай і культурнай работы прафсаюзаў.

Задачы культурнай рэвалюцыі патрабуюць усямернага паскарэньня і ажыцьцяўленьня ўсеагульнай пісьменнасьці працоўнага насельніцтва, рашучага ўзьняцьця культурнага ўзроўню працоўных мас, стварэньня ў шырокіх разьмерах новых кадраў уласнай тэхнічнай інтэлігенцыі з рабочых і калгасьнікаў, аўладаньня тэхнікай, хутчэйшага ўзьняцьця ўсёй справы тэхнічнай асьветы, узмацненьня камуністычнага выхаваньня.

Пасьпяховае вырашэньне гэтых задач абавязвае партыйныя арганізацыі ўзмацніць кіраўніцтва культурным будаўніцтвам. „Барацьба за павышэньне якасьці культурнай работы, за рэалізацыю шасьці ўмоў правадыра партыі тав. Сталіна, за марксыцка-ленінскую мэтадалёгію“—асноўная і першачарговая задача партыйных арганізацый і ўсёй пралетарскай грамадзкасьці на фронце культурнай рэвалюцыі.

У той час як у нас у БССР, як і ва ўсім Савецкім саюзе, на аснове пасьлядоўнага правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі няўстанна расьце культурны ўзровень працоўных усіх нацыянальнасьцяй, там—за мяжою, у краінах капітала—мы бачым зусім іншы малюнак.

Сучасная буржуазная культура і навука крута павярнула назад ад слоў вялікага нямецкага паэта Гётэ, які сказаў: „Сьвятла, больш сьвятла“. Сусьветны эканамічны крызіс рэзка паскарае працэс яе распаду. Не сьвятла, а цемры, някультурнасьці, сярэднявяковай папоўскай інквізыцыі патрабуе зараз эшалелы буржуа ў паніцы перад крызісам. Нават самы заядлы прапаведнік польскага фашызму, газэта „Кур'ер Віленскі“ прадракае блізкі і немінучы ўпадак Заходня-эўрапэйскай культуры.

За апошні час польскі буржуазны друк, не знаходзячы выхаду з крызісу, з упадку культуры, пачынае зацямняць галавы працоўных мас рознымі „цудамі“. Ён па ўсіх завулках крычыць, што, нібы-та, ня так даўно на зямлі зьявіліся „абноўленыя сьляды сьвятой крыві хрыста“. Буржуазныя вучоныя, падтрымоўваючы гэтыя „цуды“, навыперадкі, адзін перад другім стараюцца даказаць сваю вернасьць капіталізму і запэўняюць, што ўласнымі вачыма бачылі гэтыя самыя „сьляды“. Падобных „цудаў“ польскім буржуазным друкам штодня фабрыкуецца дзесяткі.

Абнішчэньне заходня-беларускай вёскі набывае ўсё большую глыбіню па меры абвастрэньня сусьветнага эканамічнага крызісу. Нядаўна „Работнік“ (орган польскіх сацыял-фашыстаў) не зьдзіўляючыся паведамляе, што на рынку нейкі селянін Пятрыкоўскі прадаў „свайго сына за 50 злотых“. А ў Амэрыцы створаны спэцыяльныя крамы, у якіх прадаецца кроў беспрацоўных. Гэтую кроў купляюць хворыя буржуа для лячэньня малакроўя.

Голад штурхае „хлопаў“ на продаж дзяцей. Голад у жудасным абкружэньні ахапіў рабочых і ўсё працоўнае сялянства Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Продаж дзяцей польскімі працоўнымі і продаж крыві амэрыканскімі беспрацоўнымі з-за кавалка хлеба,—яркі доказ „росквіту“ буржуазнай культуры і цывілізацыі.

Буржуазныя „прафэсары“ майструюць „тэорыі“ за „тэорыямі“ апраўданьня развалу капіталістычнай сыстэмы. Але дарэмныя патугі супыніць рух гісторыі. Закон пагібелі капіталізма напісан ім самім. Усе „навуковыя“ прадраканьні ня ў сілах суняць упадак буржуазнай культуры, якая на ўсіх парах імчыцца ў твань сярэднявяковай папоўскай інквізыцыі; ня спыніць магутнага ўздыму рэвалюцыйнай барацьбы сусьветнага пралетарыяту. Магутны шквал пралетарскай рэвалюцыі змые прэч з дарогі аўтараў „сьвятых цудаў“ і „законаў прыроды“ для беспрацоўных.

Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва Саюзу ССР і БССР асабліва відавочны на фоне ўсеагульнага эканамічнага крызісу капіталізму. Там, у краінах капіталу, ідзе бязьлітаснае наступленьне на матар'яльна-бытавыя ўмовы рабочай клясы. Узрастае нацыянальны ўціск і эксплёатацыя прыгнечаных народаў каленій і паўкаленій. У зьвярыным страху перад надыходзячай сусьветнай пралетарскай рэвалюцыяй, вядучы падрыхтоўку вайны супроць СССР, капіталісты імкнуцца фізычна зьнішчыць лепшую, найбольш сьвядомую частку рабочай клясы і працоўнага сялянства.

У краінах буржуазнай „дэмакратыі“ шалее нячуваны белы тэрор.

У нас, у краіне дыктатуры пралетарыяту, на базе нябывалых тэмпаў разьвіцьця народнай гаспадаркі, няўхільна павышаецца эканамічны і культурны ўзровень працоўных мас.

Р. К—кі.

# Электрыфікацыя сельскай гаспадаркі БССР

„Адзінай матар'яльнай базай сацыялізму можа быць буйная машынная прамысловасьць, здольная рэарганізаваць і земляробства. Адпаведная ўзроўню навейшай тэхнікі і здольная рэарганізаваць земляробства буйная прамысловасьць—ёсьць электрыфікацыя ўсёй краіны. Толькі тады, калі пад прамысловасьць, сельскую гаспадарку і транспарт будзе падведзена тэхнічная база буйнай прамысловасьці—толькі тады мы пераможам канчаткова“.

Гэтыя глыбокія словы Уладзімера Ільліча Леніна, леглі ў аснову пляна ГОЭЛРО—пляна дзяржаўнай электрыфікацыі СССР. Амаль зараз-жа пасьля ўзяцьця ўлады рабочымі і сялянамі, ледзь уціхлі франты, у абстаноўцы рэзкай эканамічнай разрухі краіны, геній У. І. Леніна намаляваў майстэрскую канву—у 10—15 год усеяць краіну Саветаў буйнымі электрастанцыямі, перакроіць сеткай правадоў, якія будуць транспартыраваць электраэнэргію ў прамысловасьць, сельскую гаспадарку і транспарт для рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, для пабудовы сацыялістычнага грамадзтва.

Тав. Ленін прыдаваў вялізарнейшае значэньне пляну ГОЭЛРО. У адзнаку ад малавераў, якія назвалі яго плян „электрыфікацыяй“. Ленін назваў яго „другой праграмай партыі“. „**Яна** (гэта праграма **Н. Б.**) **нам патрэбна, як першыя нататкі, якія перад усёй Расіяй устануць, як вялікі гаспадарчы плян, разьлічаны ня менш, як на 10 год, і паказваючы, як перавесьці Расію на сапраўдную гаспадарчую базу, неабходную для камунізму**“ (Ленін т. XXVI, ст. 45—47).

Жыцьцё поўнасьцю апраўдала ленінскі плян. Так, плян ГОЭЛРО намячаў давесьці магутнасьць раённых электрастанцый (РЭС) да 1.750 тысяч кілёват*). Даныя-ж на пачатак 1932 году паказваюць, што магутнасьць раённых электрастанцый дасягнула 1.719 тыс. кілёват. Такім чынам, ужо ў трэцім годзе пяцігодкі плян ГОЭЛРО быў выканан.

Плян электрабудаўніцтва 1932 г. павінен забясьпечыць падваеньне магутнасьці РЭС (раённых электрычных станцый), што ўжо ў 1-ую пяцігодку падзіць значную электрычную базу пад прамысловасьць і ствараe для электрычнасьці магчымасьць быць адным з важнейшых элемэнтаў у справе тэхнічнай рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, а для сельскай гаспадаркі—уняддрэньне энэргетыкі зробіць СССР ня толькі краінай самай буйнай сельскай гаспадаркі, якою яна зьяўляецца на сёнешні дзень, а і краінай самай буйнай тэхнікі ў сьвеце.



Тав. ЖДАНОВІЧ—старшы брыгадзір гасразьліковай брыгады (саўгас Бачэйкава)

У другую пяцігодку вытворчасьць электраэнэргіі дасягне 100 мільярдаў кілёватгадзін. Такія тэмпы можа мець толькі краіна, якая пабудавала фундамант сацыялістычнай эканомікі, а ў другую пяцігодку ажыцьцявіць „**канчатковую ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыі, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавай сацыялістычнай грамады**“. (З рэзалюцыі XVII канфэрэнцыі УсеКП(б).

„Важнейшым элемэнтам тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі (у 2-ую пяцігодку—**Н. Б.**) зьяўляецца стварэньне навейшай энэргетычнай базы, аснаванай на шырачайшай электрыфікацыі прамысловасьці і транспарта і **паступовым упядрэньні электраэнэргіі ў сельскую гаспадарку**, з скарыстаньнем вагромных рэсурсаў воднай энэргіі, каменавугольных залежаў асноўных і мясцовых басэйнаў, мясцовых відаў паліва (торф, сланцы)“.

Такава ўстаноўка XVII канфэрэнцыі УсеКП(б).

Паглядзім, што-ж мы маем у БССР па лініі электрыфікацыі народнай гаспадаркі, прамысловасьці, сельскай гаспадаркі ў 1-ую пяцігодку.

Так, колькасьць магутнасьці энэргетычных установак вырасла з 25,5 тысяч кілёват у 1926—27 г. да 81 тыс. квт. у 31 г. і да 85 тыс. кілёват у 1932 г. Выпрацоўка электраэнэргіі па БССР вырасла з 72,5 мільёнаў кілёватгадзін у 26—27 г. да 209,5 млн. кілёватгадзін у 1931 г., а ў 1932 г. дасягне 327,5 млн. квт. гадзін.

## Электрыфікацыя сельскай гаспадаркі ў першую пяцігодку

Да рэвалюцыі ў БССР ня было ніводнай электрычнай устаноўкі.

Даныя, якія ёсьць у БССР, датычацца толькі пасьлярэвалюцыйнага часу. З гэтых даных відаць, што ў сельскай гаспадарцы меліся дробныя, сярэдняй магутнасьці маторы ў 9 кілёват, працаваўшыя на сталым току ў саўгасах Белсельтрэста. Уся магутнасьць іх дасягала 144 кілёват.

1931 год робіць значна крок уперад у сэнсе электрыфікацыі сельскай гаспадаркі БССР.

Дзякуючы пабудове 1-Бел. Дзярж. Раённай электрастанцыі імя Сталіна стала магчымым электрыфікаваць акаляючыя раёны і падаваць ток на значную адлегласьць, аж на 90 кілёмэтраў у радыусе.

На працягу аднаго толькі 1931 году электрыфікавана 35 саўгасаў, калгасаў і фэрм у раёнах Віцебшчыны, Аршаншчыны, Дубровеншчыны. Устаноўленая магутнасьць у іх дасягае каля 1700 кілёват—магутнасьць у паўтары разы большая, чым мела ўся сельская гаспадарка дарэвалюцыйнай Расіі.

У саўгасах і калгасах устаноўлена 155 электрычных матораў, пры дапамозе якіх ужо ў 1931 годзе

*) 1 кілёват=1,36 конскіх сіл.



Тав. КОРЦІКА—былы сьвінар, вылучан тэхнікам-сьвінаводам (саўгас Старчыцы).

рэзалі сечку, сілас, капусту, малацілі, малолі. Электраматоры замянілі ў гаспадарках старыя, менш вытворчыя і даражэйшыя рухавікі. У 1931 г. у электрыфікаваных саўгасах і калгасах устаноўлена 7102 лямпачкі Ільліча, якія асьвятляюць саўгасныя і калгасныя хаты, ленкуткі, чытальні, сталоўкі, скотныя двары.

Унядрэньне электраматора ў сельскую гаспадарку выклікае шалёную агітацыю з боку кулацтва і іх падпявал. Яны добра ведаюць, што падвядзеньне энэргетычнай базы пад сацыялістычную сельскую гаспадарку—апошні руйнуючы ўдар па іх існаваньні і таму яны робяць розныя спробы, каб сарваць пераможны ход сілы пралетарыяту — электраэнэргетыку. Электраматор робіць цэлую рэвалюцыю як у сельскай гаспадарцы, так і ў быту.

Вось некалькі ілюстрацый: 1) Адзін цэнтнэр сіласу зараз, пры рабоце электраматора ў саўгасе Віцебшчыны „Цераспаль" каштуе 14,5 капеек, пры рабоце-ж паравым рухавіком—26,5 кап. Зьніжэньне сабекошту амаль у 2 разы, акрамя зьберажэньня гаручага, рабсілы і г. д. 2) За 15 хвілін электраматор у саўгасе „Хоцінічы", на Віцебшчыне, разразае коранъплодаў на дзень для 80 шт. буйнай рагатай жывёлы, на што раней патрабавалася праца 5—6 жанчын на працягу 8—10-гадзіннага дня. Рабсіла, якая была вызвалена, дзякуючы электраматору, ужо ў 1931 годзе дала магчымасьць электрыфікаваным гаспадаркам Віцебшчыны выканаць свае асеньнія палявыя работы, сіласаваньне і інш. у значна карацейшыя тэрміны.

Побач з адзначанымі посьпехамі электрыфікацыі сельскай гаспадаркі БССР трэба адзначыць цэлы рад недахопаў:

1. Электрычная энэргія ня поўнасьцю яшчэ скарыстоўваецца ў электрыфікаваных саўгасах і калгасах. Задача савецкай грамадзкасьці, працаўнікоў па электрыфікацыі сельскай гаспадаркі,—дабіцца падвышэньня каэфіцыенту скарыстаньня электраматораў у сельскай гаспадарцы, большага ахопу электраэнэргіяй працэсаў жывёлагадоўлі (падрыхтоўка кармоў, падача вады і г. д.);

2. Яшчэ да гэтага часу ў саўгасах і калгасах не ўстаноўлены шчотчыкі.

Вынікі электрыфікацыі сельскай гаспадаркі у 1931—32 годзе зьяўляюцца толькі першым к… па шляху ўнядрэньня электрычнасьці ў сельс… гаспадарку. Плян 1932 г. робіць яшчэ крок упер… Так, ужо да 1 мая 32 г. павінна быць скончан… электрыфікацыя 27 саўгасаў, МТС і калгасаў і пушчаны ў ход з агульнай магутнасьцю ў 771 квт.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1) па Віцебскаму раёну—7 калгасаў магутнасьцю | | | 190 квт |
| 2) „ Аршанскаму „ | 8 „ | 1 саўгас, 1 фэрма— | 345 „ |
| 3) „ Магілеўскаму „ | 1 | саўгас магутнасьцю— | 50 „ |
| 4) „ Шклоўскаму „ | 1 | фэрма „ | 50 „ |
| 5) „ Трактарацэнтру | 5 | МТС „ | 66 „ |
| 6) 3 саўгасы глубінных пунктаў | | „ | 70 „ |

Усяго ў 1932 г. сельская гаспадарка ўзброіцца магутнасьцю каля 1 600 квт., будзе ўстаноўлена 6.700 лямпачак Ільліча, 314 электраматораў. Кошт усяго электрабудаўніцтва 1932 году абыйдзецца 1.625 тыс. руб.

Вынікі электрыфікацыі сельскай гаспадаркі 1931—32 г. г., пачатая будова Рагачэўскай ТЭЦ, будаўніцтва Менскай ТЭЦ, разгорнутае будаўніцтва раённых электрычных станцый у 2-ую пяцігодку,—ужо зараз ставяць у парадак дня проблему кадраў для патрэб электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, разгортваньне вопытнай справы, уясьненьне тарыфікацыі электраэнэргіі, эксплёатацыі сельскіх магістраляй і г. д.

Мы знаходзімся на парозе 2-й пяцігодкі, у якой будзе падведзена навейшая тэхнічная база пад усю народную гаспадарку. „Асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца завяршэньне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, стварэньне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнай гаспадаркі". Гэтая ўстаноўка XVII партканфэрэнцыі ставіць ва ўсю шырыню пытаньне і аб падвядзеньні навейшай тэхнічнай базы пад сельскую гаспадарку.

Важнейшай задачай тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі зьяўляецца стварэньне навейшай энэргетычнай базы, заснаванай на найшырэйшай электрыфікацыі прамысловасьці, транспарта і паступовым унядрэньні электраэнэргіі ў сельскую гаспадарку. **Н. Б.**



Тав. ЛІСОЎСКАЯ—лепшая ўдарніца гасразьліковай брыгады (саўгас імя Чарвякова).

**Тэхніка ў пэрыяд рэканструкцыі рашае ўсё. За бальшавіцкія тэмпы аўладаньня тэхнікай! Наперад на барацьбу за поўнае завяршэньне тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі СССР!**

# Э… …ная рэканструкцыя сельскай …ркі БССР

**„Разьвіцьцё прамысловасьці, вытворчасьць сельскагаспадарчых машын і трактароў, масавае забесьпячэньне сялянства прадуктам прамысловасьці зьяўляецца той прадпасылкай, без якой ня можа рухацца ўперад сельская гаспадарка“.**

**(Сталін).**

1931 год зьявіўся годам пабудовы фундаманту сацыялістычнай эканомікі. Ленінскае пытаньне „хто каго“ вырашана на карысьць сацыялізму як у горадзе, так і на вёсцы.

Сацыялістычны сэктар на вёсцы дасягнуў абсалютнай перавагі над аднаасобным сэктарам.

62 проц. па СССР і 50,3 проц. па БССР бядняцка-серадняцкіх гаспадарак уступілі ў калгас. Калгаснае сялянства ператварылася ў цэнтральную фігуру земляробства, калгасьнік стаў моцнай апорай партыі і ўлады на вёсцы. Калгасы і саўгасы ўжо даюць асноўныя масы таварнай прадукцыі.

Дзесяткі тысяч трактароў і тысячы машына-трактарных станцый зьяўляюцца магутнай базай, на аснове якой ідзе ператварэньне дробнага ўласьніка ў актыўнага сацыялістычнага працаўніка. Бядняцка-серадняцкія масы ўпэўніліся ў правільнасьці палітыкі камуністычнай партыі, накіраванай на індустрыялізацыю краіны, на стварэньне буйных прадпрыемстваў па вырабе машын для сацыялістычнага земляробства, бо „перабудова ўсёй сельскай гаспадаркі была-б немагчыма без пераробкі яе тэхнічнай базы, без забесьпячэньня сельскагаспадарчай вытворчасьці трактарамі, камбайнамі, пасеўнымі і ўборачнымі машынамі“ (Молатаў).

Шпаркія тэмпы індустрыялізацыі краіны, высокія тэмпы разьвіцьця цяжкай індустрыі забясьпечылі рашучае пераўзбраеньне тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі. За апошнія гады саўгасы, калгасы і МТС атрымалі больш чым на адзін мільярд рублёў машын, у тым ліку на некалькі сот мільёнаў рублёў складанага прычэпнага інвэнтару.

Пытаньне разьвіцьця сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва пастаўлена 17 усесаюзнай парткан-фэрэнцыяй і 14 зьездам КП(б)Б як адна з асноўных задач непасрэдна зьвязаных з завяршэньнем тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі. У параўнаньні з мінулым 1931 годам, у 1932 годзе сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва больш чым падвоіць выпуск прадукцыі. У 1932 годзе па СССР будзе выпушчана сельскагаспадарчых машын на 900 мільёнаў рублёў супроць 447 млн. за мінулы год. Апроч машын, сельскай гаспадаркай СССР будзе атрыман трактарны парк магутнасьцю ў 1 млн. конскіх сіл і 11 тыс. аўтамашын. Царская Расія ў 1913 г. выпускала машын усяго на 70 млн. рублёў.

Такім чынам перад рабочымі заводаў сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва стаіць задача так разгарнуць вытворчасьць, каб месячны выпуск у сярэднім за 1932 г. перавысіў гадавы выпуск 1913 г.

Ва ўмовах БССР сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва складае адну з асноўных функцый прамысловасьці. Праграма сельгасмашынабудаўніцтва, вызначаная для 1932 г. у аб'ёме 17 млн. 715 т. руб. па сваёй удзельнай вазе ва ўсёй мэталёпрамысловасьці БССР раўняецца 35 проц. Далёка адкінуты назад і ўшчэнт разьбіты ўсе шкодныя сьцьвярджэньні аб тым, што нібы-та ў БССР у сілу абстаноўкі, якая гістарычна склалася, немагчыма праводзіць калектывізацыю бядняцка-серадняцкіх мас сялянства і трактарызацыю сельскай гаспадаркі.

Як трактарызацыя, так і ўжываньне складаных машын да 1930 г. мелі зусім нязначнае месца ў сельскай гаспадарцы БССР. У праведзенай працы Дзяржплянам і Наркамземам БССР па машыназабесьпячэньні яскрава працякае да 1930 г. стаўка на дробны сельскагаспадарчы інвэнтар, годны для аднаасобнага сэктара, здольны разьвіваць кулацкую гаспадарку, але не сацыялістычную.

Пералом у завозе сельскагаспадарчых машын, больш прыстасаваных да буйнай сацыялістычнай гаспадаркі, пачынаецца ў БССР толькі ў апошнія гады. Шпаркі рост саўгасных і калгасных гаспадарак БССР дае магчымасьць тэхнічнага пераўзбраеньня сацыялістычнага земляробства БССР новымі сродкамі вытворчасьці, і ўжываньня складаных машын.

Рост сельскай гаспадаркі і рост завозу больш складаных машын у БССР у трэцім рашаючым і ў чацьвертым заключным гадох першай пяцігодкі характарызуюць наступныя лічбы:

| | Завезена ў 1929 г. | Будзе завезена ў 1932 г. |
|---|---|---|
| Сяўнікі | 1.454 | 9.000 |
| Жаткі і снопавязалкі | 723 | 8.018 |
| Граблі конныя | 140 | 5.001 |
| Малацілкі складан. | 90 | 690 |
| Малацілкі „Эддзі“ (для абмалоту ільну) | — | 1.000 |

Гэтыя лічбы са ўсёй яскравасьцю паказваюць буйнейшы пералом на палёх БССР. Прыстасаваньне сеўнікоў даюць тэхнічную і эканамічную эфэктыўнасьць ураджайнасьці да 25 проц., павялічыла даходнасьць гаспадарак. Тое-ж самае наглядаем і ў завозе снапавязалак. Складаная малацілка, прыстасоўваемая ў гаспадарках з зернавым пасевам звыш 500 *га*, характарызуе ня толькі рост іх карыстаньня, а і рост буйнага сацыялістычнага земляробства ў БССР.

Усюды, дзе ўлада належыць буржуазіі, большая частка машын, інвэнтару, трактароў і камбайнаў цалкам знаходзіцца ў руках абшарніка, кулака, буйнага фэрмэра, капіталіста. Толькі ў СССР упяршыню ў гісторыі яны становяцца маемасьцю асноўнай працоўнай масы сялянства.

Мы цяпер цалкам пераканаліся ў словах нашага правадыра т. Леніна, які казаў: „Машына самы лепшы агітатар за сацыялізм, машына—самы лепшы сродак перарабіць старае сяло і селяніна“. Аб тым, як моцна стала ўзрастаць энэргетычная база БССР на этапе разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва і выкараненьня „прышчэпаўшчыны“ з вялікай яскравасьцю малюе наступная табліца штогадовага завозу трактароў у БССР.

| Завезена | Да і ў 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1922 г. (плян) | Чакаецца наяўнасьць трактароў на 1-I-33 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Трактароў у адз. | 22 | 32 | 48 | 30 | 41 | 63 | 621 | 1.098 | 3.516 | 5.427 |
| Трактароў у НР | 240 | 360 | 495 | 300 | 440 | 630 | 7.557 | 11.406 | 50.000 | 70.977 |
| У $^0/_0$ да 1932 г. | 0,6 | 0,6 | 0,9 | 0,6 | 0,8 | 1,2 | 11,4 | 20,2 | 64,8 | 100 |

Такім чынам у гады „прышчэпаўшчыны“ з 1924 г. да 1929 г. завезена трактароў толькі 3,3 проц. да ўсяе колькасьці трактароў у 1932 г.

Баявы лёзунг камуністычнай партыі аб выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады, у галіне трактарызацыі выканан са значным перавыкананьнем.

У першую пяцігодку ўсяго будзе завезена ў БССР трактароў і машын на суму 57.103,4 тыс. руб. Завоз с.-г. машын на 1932 г., вызначаны на суму ў 20.676,5 тыс. руб., разьмяркоўваецца наступным чынам: саўгасам саюзнага значэньня—2.400,0 т. руб., саўгасам рэспубліканскага значэньня—1.520,9 т. руб., саўгасам мясцовага значэньня і інш.—320,5 т. руб., МТС—5.901,8 тыс. руб., калгасам не абслугоўваемых МТС—10.301,2 тыс. руб., аднаасобнаму сэктару—232,1 тыс. руб. Завоз машын павялічваецца як па сваёй колькасьці так і па сваім значэньні таму, што завозіцца больш складаных і дасканалых машын.

Аднак многія машыны, як, напрыклад, радавая сеялка, вельмі слаба скарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы. Ня гледзячы на тое, што радавы пасеў мае вялікае значэньне ў барацьбе за падвышэньне ўраджайнасьці, так як дае рост на 15—20 проц. і эканомію ў пасеўным матар'яле на 15-20 проц. радавая сеялка вельмі слаба скарыстоўваецца. Завезеныя ў калгасы сеялкі большай часткай стаяць без ужываньня, бо да апошняга часу раённыя арганізацыі і нават агранамія вельмі мала ўвагі звярочвалі гэтаму важнейшаму агратэхнічнаму мерапрыемству. Апроч таго маса калгасьнікаў незнаёма з канструкцыяй сеялкі, ня можа ўстанавіць яе ў час працы. Мы павінны дабіцца пералому ў справе прымяненьня сеялкі і інш. с.-г. машын. Калгасьнік павінен аўладаць тэхнікай, бо „тэхніка ў пэрыяд рэканструкцыі вырашае ўсё“ (Сталін). Нам хутка патрэбна перамагчы тэхнічнаагранамічную няпісьменнасьць калгасьніка. Чым хутчэй мы зьнішчым гэтую адсталасьць, тым з большым посьпехам мы правядзем мерапрыемствы па мэханізацыі работ у сельскай гаспадарцы, па ўздыму ўраджайнасьці.

Апроч колькаснага павялічэньня мы маем і якаснае палепшаньне і скарыстаньне трактарнага парку. Да 1929 г. трактары ня былі сканцэнтраваны ў магутныя энэргетычныя базы і скарыстоўваліся рознымі арганізацыямі па аднаму і па два. Распыленасьць трактарнага парку ўскладняла тэхнічнае і арганізацыйнае абслугоўваньне апошняга і ўскладняла падлік эфэктыўнасьці, што давала ў выніку дрэннага нагляду за трактарамі вельмі нізкую колькасьць гадзін работы. Увесну 1929 г. былі арганізаваны чатыры трактарныя калены з лікам трактароў да 40 штук. Увесну 1930 г. у Койданаўскім раёне была арганізавана першая па БССР машынатрактарная станцыя са складам 33 трактароў, а ўвосень 1930 г. яшчэ 5 МТС у другіх раёнах БССР, а ў 1931 г. мы ўжо маем 33 МТС. Посьпехі калектывізацыі бясспрэчна тлумачацца ўсё большым укараненьнем у сельскую гаспадарку трактароў і машын. Процант калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас у раёнах дзейнасьці МТС значна вышэй: 61 проц. супроць 50 проц. па БССР.

Пры параўнаньні калгасаў, абслугоўваемых МТС, з калгасамі неабслугоўваемымі МТС, у справе падвышэньня ўраджаю ў 1931 г. наглядаецца наступнае:

**Ураджай з аднаго *га***

| | Калгасы МТС | Інш. калгасы |
|---|---|---|
| Азім. зернавых | 7,8 *цнт* | 6,6 *цнт* |
| Ярав. зернавых | 7,6 „ | 6,3 „ |
| Бульбы | 95,2 „ | 88,0 „ |
| Ільнанасеньня | 2,5 „ | 2,4 „ |
| Ільнавалакна | 1,98 „ | 1,87 „ |

Валавы даход з аднаго *га* ў калгасах МТС складае 133 р. 65 к. Па калгасах не абслугоўваемых МТС—116 р. 50 кап. з *га*. Як вынік усяго гэтага аплата працадзён калгасьнікаў МТС значна павялічылася. У калгасах МТС больш высокая здача таварных лішкаў у параўнаньні з іншымі калгасамі.



Такім чынам мы відавочна бачым пераважнасьць буйных энэргетычных цэнтраў—МТС, ня гледзячы на наяўнасьць на сёнешні дзень шмат недахопаў, у 1932 г. і ў другой пяцігодцы павінны зьяўляцца асновай для далейшай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі БССР, ім павінна прыналежыць выдатнае месца ў справе тэхнічнага пераўзбраеньня с.-г. вытворчасьці і арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні. У веснавой пасеўкампаніі 1932 году будуць працаваць 56 МТС. У другім квартале 1932 г. будзе арганізавана яшчэ 14 МТС, а к канцу 1932 г. будзе ў наяўнасьці ў БССР 100 МТС з трактарным паркам у 3.379 трактароў, У 2-ой пяцігодцы мяркуецца мець у БССР 125—150 МТС. Будаўніцтва МТС закончыцца ў 1933 г. Разьлік на 125 МТС узят з меркаваньняў ахопу кожнай МТС у сярэднім 35—40 тыс. *га* пасеўнай паошчы і радыусу дзейнасьці ў 15—18 *клм*. Ужываньне трактароў у другой пяцігодцы павінна дасягнуць такіх разьмераў, каб у асноўным імі была ахоплена ўся пасеўная плошча БССР. К канцу другой пяцігодкі намечана мець у БССР 30.000 трактароў у пераводзе на дзесяцісільныя. Калі процант апрацоўкі плошчы ў 1932 г. мэханічнай цягай—12,6 проц., конскай цягай—87,6 проц., дык на працягу другой пяцігодкі малюнак рэзка мяняецца і такім чынам у 1937 годзе апрацоўка плошчы мэханічнай цягай будзе прыблізна 73,6 проц., а конскай—26,4 проц. Ня гледзячы на шпаркі рост мэханізацыі, конь у другую пяцігодку будзе адыгрываць выдатную ролю ў энэргетычным балянсе сельскай гаспадаркі. „Посьпех, дасягнуты намі гэтай вясной, зьяўляецца вынікам злучэньня рухавой сілы з канём у палявых работах, што ў нас будзе мець месца яшчэ рад год" (Якаўлеў). І таму конскае пагалоўе нараду з колькасным ростам на 3—5 проц. павінна значна павялічыцца ў якасных адносінах.

**І. Г. Альперын**

# Вытворчая практыка завочнікаў

## Тэма пятая

Арганічная сувязь тэаратычнага навучаньня з вытворчай працай зьяўляецца асновай сацыялістычнай сыстэмы падрыхтоўкі кадраў, таму праходжаньне вытворчай практыкі зьяўляецца абавязковым для ўсіх навучаючыхся, у тым ліку і для завочнікаў.

Вытворчая практыка завочнікаў праводзіцца паводле пэўнай праграмы, распрацаванай завочным сэктарам і ўзгодненай з завочнікамі і адміністрацыяй гаспадаркі, у якой намечана адбываньне практыкі. У выніку ўзгадненьня, з праграмы выключаюцца ўсе тыя рабочыя месцы і апэрацыі, якія ў дастатковай ступені вядомы завочніку, асабліва простыя апэрацыі.

У аснову праграм кладзецца непарыўнасьць тэарэтычнага і вытворчага навучаньня і пэўная пасьлядоўнасьць праходжаньня паасобных частак тэарэтычнага і вытворчага навучаньня ў іх арганічнай сувязі. Праграма тэарытычнага і вытворчага навучаньня зьяўляецца адзінай праграмай па данай дысцыпліне з падзелам яе на тэарытычную і практычную прапрацоўку.

Праграма складаецца з паасобных канкрэтных заданьняў (выходзячы з умоў данай гаспадаркі), у якіх зазначаецца: а) назва заданьня; б) мэтавая устаноўка заданьня; в) пасьлядоўнасьць рабочых месц з зазначэньнем часу і паасобных апэрацый працы на кожным месцы; г) пытаньні тэарытычнага характару; д) літаратура; е) мэтадычныя паказаньні кіраўніку вытворчай практыкі.

Для вытворчай практыкі завочныя сэктары абіраюць буйныя спэцыялізаваныя гаспадаркі (саўгас, калгас, МТС) з добра пастаўленай агратэхнікай, з высокай мэханізацыяй, рамонтнымі майстэрнямі, прадпрыемствамі для перапрацоўкі сельскагаспадарчай сыравіны і г. д.

У час вытворчай практыкі завочнік павінен азнаёміцца з асноўнымі вытворчымі навыкамі, з канструкцыяй сельскагаспадарчых машын, арудзьдзяў і прыладаў і іх ужываньнем, з тэхналёгічнымі працэсамі вытворчасьці, з арганізацыйнай структурай вытворчасьці (прадпрыемства), з арганізацыяй працы і вучоту на прадпрыемстве.

Тыя завочнікі, штодзенная праца якіх на вытворчасьці адпавядае абранай спэцыяльнасьці, праходзяць практыку на месцы працы, на працягу ўсяго часу вучобы. На адміністрацыю ўскладаюцца абавязкі: забясьпечыць прасоўваньне завочніка з аднаго рабочага месца на другое, адпаведна з праграмамі завочнага сэктару. Завочнікі, штодзенная праца якіх на вытворчасьці не адпавядае абранай спэцыяльнасьці—праходзяць вытворчую практыку ў спэцыялізаванай гаспадарцы (саўгас, калгас, МТС). Паколькі ў даным выпадку праходжаньне вытворчай практыкі зьвязана з выездам з аднаго месца ў другое—для праходжаньня практыкі ўстанаўліваюцца пэўны час і тэрмін. Першыя 2 гады навучаньня на вытворчую практыку адводзіцца па 1 месяцу ў год, а на 3-м (апошнім) годзе навучаньня завочнік павінен перайсьці на сталую працу ў абранай спэцыяльнасьці.

Першую вытворчую практыку праходзяць тыя студэнты, якія прапрацавалі ня менш 5 проц. навучальнага матар'ялу 1-га году навучаньня, другую—пасьля прапрацоўкі ўсяго курсу першага году навучаньня і ня менш 25 проц. другога году навучаньня. На сталую працу па спэцыяльнасьці пераходзяць тыя студэнты, якія прапрацавалі поўнасьцю матар'ял першага і другога году навучаньня.

Праграма вытворчай практыкі складаецца так, каб студэнт на працягу 3-х год навучаньня (па ВНУ) мог выканаць працы, пачынаючы з простай і канчаючы высокакваліфікаванай па спэцыяльнасьці.

1-ы год навучаньня завочнікі працуюць у якасьці радавых рабочых з мэтай атрыманьня вытворчых навыкаў; 2-гі год—у якасьці старшых рабочых, выконваючы функцыі арганізатараў працы радавых рабочых у брыгадзе, складаюць нарады, кіруюць працай, праводзяць улік і да т. п.; 3-ці год—працуюць у якасьці тэхнікаў, пам. загадчыкаў вучасткаў і выконваюць функцыі плянаваньня і кіраўніцтва паасобнымі вучасткамі, складаюць рабочыя пляны пасеўнай і ўборачнай кампаніі (па вучастках), удзельнічаюць у складаньні пляну ўсёй гаспадаркі (прадпрыемства), арганізуюць і кіруюць усімі вытворчымі працэсамі (вучасткаў), вывучаюць эфэктыўнасьць новых машын і прылад, праводзяць аналіз працы па ўсіх паказчыках (вытворчасьць працы, сабекошт прадукцыі і інш.), знаёмяцца з пастаноўкай

уліку і справаздачнасьці. У 3-м-жа годзе навучаньня завочнік знаёміцца з навучальна-вытворчай працай ШКМ, саўгасвучаў, ФЗС і да т. п., набываючы пэдагагічныя навыкі.

Грамадзка-палітычная праца шчыльна ўвязваецца з асноўнай працай на вытворчасьці, накіраванай на выкананьне прамфінпляну данай гаспадаркі.

Практыканты скарыстоўваюцца ў адпаведнасьці з праграмамі, узгодненымі паміж завочнымі сэктарамі і гаспадаркамі, у якіх праводзіцца практыка. Практыкант не павінен скарыстоўвацца на працы, якая ня мае дачыненьня да яго спэцыяльнасьці.

Адказнасьць за арганізацыю і кіраўніцтва вытворчай практыкай завочнікаў (складаньне рабочых праграм, узгадненьне іх з прадпрыемствамі, мэтадычнае кіраўніцтва і г. д.) нясуць завочныя сэктары, у прыватнасьці, загадчыкі навучальных частак і загадчыкі паасобных катэдр.

Навучальная ўстанова павінна ажыцьцяўляць: своечасовае азнаямленьне прадпрыемстваў, у якіх намячаецца правядзеньне вытворчай практыкі, з плянамі і праграмамі вытворчай практыкі; сыстэматычнае нагляданьне за ажыцьцяўленьнем гэтых плянаў і праграм, і ўнясеньнем адпаведных зьмен, калі гэта зьявіцца неабходным; нагляданьне за пасьпяховасьцю студэнта.

Непасрэдна на вытворчасьці адказным за правільную пастаноўку практыкі зьяўляецца дырэктар прадпрыемства, пры чым, арганізацыйнае і апэрацыйнае кіраўніцтва вытворчай практыкай ускладаецца дырэктарам прадпрыемства на спэцыяльна вылучаную асобу, а непасрэднае кіраўніцтва ў аддзеле, цэху і г. д. на стала працуючых тут інжынэраў, аграномаў, інструктароў, майстраў.

Вытворчая практыка зьяўляецца пэўнаю часткаю вучобы, а таму кіраўніцтва вытворчай практыкай, як з боку завочніка сэктару, так і з боку адміністрацыі гаспадаркі павінна быць забясьпечана належным чынам. З мэтай паляпшэньня працы—пэрыядычна склікаюцца вытворчыя нарады практыкантаў сумесна з мясцовымі спэцыялістамі, партыйна-прафэсійнымі арганізацыямі і інш. На гэтых нарадах разглядаюцца праграмы вытворчай практыкі, мэтодыка працы і г. д.

На завочнікаў, адбываючых практыку поўнасьцю, пашыраюцца існуючыя правілы ўнутранага распарадку ў даным прадпрыемстве, умовы працы ў частцы—часу працы і адпачынку, спэцвопраткі і засьцеражальных прыладаў, харчаваньня, санітарнагігіенічных умоў працы.

Зарплату завочнікі атрымоўваюць у тэй гаспадарцы, у якой адбываюць практыку, выходзячы з тэй працы, якую выконваюць.

Вытворчая практыка студэнта зьяўляецца надта адказнай часткай вучобы, а таму гэта праца абавязкова павінна ўлічвацца. Матар'ял вучоту дае характарыстыку кожнаму завочніку і таму ён (вучот) праводзіцца не выпадкова, а сыстэматычна, па кожнаму віду выконваемай работы завочнікам на працягу ўсяго часу вытворчай практыкі. Адказным за вучот і якасьць вытворчай падрыхтаванасьці завочніка зьяўляецца адміністрацыя гаспадаркі, у прыватнасьці, кіраўнік вытворчым навучаньнем. Аднačасова з гэтым вучотам—кожны студэнт вядзе рабочы дзеньнік, у які штодзенна запісвае зьмест выкананай работы, колькасьць затрачанага часу на кожную апэрацыю, удзел у вытворчых нарадах, ударных брыгадах і сацспаборніцтве, у рацыяналізацыі вытворчасьці, у грамадзка-палітычнай працы і да т. п. Да дзеньніка прыкладаюцца чарцяжы, схэмы, формулы, цыфравы матар'ял, які датычыцца выкананай работы. Дзеньнік зьяўляецца неабходным вучэбна-дапаможным матар'ялам і адным з сродкаў вучоту пасьпяховасьці завочніка.

Па сканчэньні вытворчай практыкі кожны завочнік складае справаздачу на падставе матар'ялу дзеньніка па форме, якая будзе дана завочным сэктарам і прадстаўляе гэтую справаздачу ў завочны сэктар. Завочны сэктар на падставе гэтай справаздачы робіць адпаведныя адзнакі ў картцы завочніка, а справаздача захоўваецца ў справах завочніка.

Удзел у веснавой пасеўкампаніі 1932 г. У сувязі з сэзоннасьцю сельскагаспадарчай вытворчасьці, вытворчая практыка праводзіцца ў час найбольш напружанай работы ў гаспадарцы—веснавая і асеньняя пасеўкампаніі і ўборачная.

Перад завочнікамі стаіць вялізарная задача—сваім актыўнейшым удзелам забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне веснавой пасеўкампаніі 1932 году. Выкананьне, пад кіраўніцтвам спэцыялістаў саўгасу, калгасу, МТС,—канкрэтных заданьняў у веснавой пасеўнай кампаніі, павінна зьявіцца для завочнікаў таксама і вытворчым навучаньнем. Кожны завочнік па сканчэньні пасеўкампаніі павінен прадставіць у пісьмовай форме справаздачу завочнаму сэктару аб сваёй вытворчай працы. Справаздача павінна быць заверана тэй гаспадаркай або спэцыялістам, пад кіраўніцтвам якога завочнік праходзіў вытворчае навучаньне (практыку) у час веснавой пасеўкампаніі. Гэтая справаздача зьявіцца падставай для залічэньня завочніку вытворчай практыкі.

Ува ўсёй працы завочнікі павінны кіравацца шасьцю гістарычнымі ўмовамі тав. Сталіна, рашучым чынам ліквідуючы абязьлічку, безгаспадарчасьць, ураўнілаўку, уводзячы строгую пэрсональную адказнасьць, кіруючыся прынцыпам аплаты па колькасьці і якасьці работы, уводзячы гаспадарчы разьлік у саўгасах, калгасах, МТС.

Завочнікі павінны мабілізаваць усе свае сілы і веды на пасьпяховае выкананьне гаспадарча-палітычных задач трэцяй бальшавіцкай вясны.

**В. Крэйдзіч.**

Адказныя рэдактары: **С. МІЦЬКОЎ. Н. МІХАЙЛАЎ.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1095. 2.000. Уп. Галоўлітбелу № А. 2.




На 12 мес. — 24 нумары 3 р.
„ 6 „ — 12 „ 1 р. 50 к.
„ 3 „ — 6 „ — 75 к.
„ 1 „ — 2 „ — 25 к.

**ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ.**